# ЗАЯВА
## АПАЗІЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**29 кастрычніка 1992 года Вярхоўным Саветам Беларусі прынята беспрэцэдэнтная пастанова, паводле якой насуперак Закону «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)» праігнаравана ініцыятыва больш як 442 тысячаў грамадзянаў нашай дзяржавы аб правядзеньні рэфэрэндуму пра роспуск выбранага за часы непадзельнага кіраваньня КПБ-КПСС парлямента і правядзеньні датэрміновых выбараў у новую найвышэйшую ўстанову дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусі.**

**Вярхоўны Савет гэтым сваім рашэньнем паказаў сваю адкрытую пагарду да рэалізацыі неад ´емнага права народа на волевыяўленьне, парушыўшы тым самым артыкулы 2 і 5 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, артыкулы 6 і 14 Закона «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)» Рэспублікі Беларусі.**

**Цэнтральная камісія па рэфэрэндуму не адзначыла ніякіх парушэньняў Закона з боку ініцыятыўнай групы рэфэрэндуму, якія давалі б падставу адхіліць правядзеньне рэфэрэндуму, аб чым сьведчыць Заключэньне Камісіі. Падпісныя лісты, у якіх Цэнтральная камісія па рэфэрэндуму выявіла недакладнасьці ў афармленьні, былі аднятыя ад агульнай колькасьці падпісных лістоў. Усе астатнія, правераныя Камісіяй падпісныя лісты, былі прызнаныя сапраўднымі і склалі 384 318 падпісаў грамадзянаў, што значна перавышае колькасьць, неабходную для правядзеньня рэфэрэндуму. На аснове гэтага і было прынятае Заключэньне Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму і 12 мая 1992 г. перададзена ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Баларусі. Прэзідыум, ігнаруючы законную волю грамадзянаў, выяўленую ў падпісных лістах, на працягу паўгода не зьбіраў Сэсію Вярхоўнага Савета і не займаўся пытаньнем пра рэфэрэндум, штучна адцягваў абавязковае вырашэньне пытаньня.**

**29 кастрычніка 10-я Сэсія Вярхоўнага Савета Беларусі з падачы Камісіі па заканадаўству сфальсіфікавала вывады Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуму і прадставіла яе грубыя парушэньні Закона. Але такія парушэньні Закона, калі б яны былі, мог устанавіць толькі суд. У дадзеным выпадку суду падлягае парлямант, які прыняў антызаконную пастанову на падставе ім жа сфальсіфікаваных аргумэнтаў. Аднак у нашай дзяржаве няма Канстытуцыйнага суда.**

**У сувязі з вышэй сказаным мы, дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, заяўляем, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі 12-га скліканьня, адхіліўшы законную ініцыятыву сотняў тысяч грамадзянаў Беларусі аб правядзеньні рэфэрэндуму пра нечарговыя выбары і роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета, стаў на шлях адкрытага парушэньня законаў, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і тым самым фактычна згубіў сваю легітымнасьць. Дзеяньні Вярхоўнага Савета аб недапушчэньні рэфэрэндуму могуць быць расцэненыя толькі як утрыманьне ўлады незаконнымі сродкамі.**

**На жаль, кіруючая большасьць у Вярхоўным Савеце Беларусі, якая так нічога і не зрабіла для паляпшэньня жыцьця народа, засьведчыла на гэтай Сэсіі выразныя тэндэнцыі, накіраваныя супраць існаваньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі. Гэта выявілася ў непрыняцьці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, у тармажэньні эканамічных пераўтварэньняў, у непавазе да дзяржаўнай беларускай мовы і сімвалаў беларускай дзяржавы, у імкненьні ўцягнуць нейтральную Беларусь у ваенны блёк з Расеяй, у спробах захаваць адміністрацыйна-сацыялістычны лад і аднавіць КПБ-КПСС. Антыдзяржаўная палітыка ёсьць палітыка антынародная, бо, не маючы сваёй дзяржавы, народ не можа распараджацца вынікам сваёй працы.**

**У ажыцьцяўленьні рэакцыйных задумаў намэнклатуры перашкаджае дзейнасьць аб ´яднанай Апазіцыі Народнага Фронту і дэмакратычных партыяў. Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі, усьведамляем свае абавязкі перад народам у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час і, нягледзячы ні на што, застаючыся ў жорсткай парлямэнцкай Апазіцыі, будзем змагацца за аднаўленьне законнасьці, за інтарэсы нашых выбаршчыкаў, нашай Беларусі і яе грамадзянаў.**

**Мы застаемся паўнамоцнымі прадстаўнікамі нашых выбаршчыкаў, але не лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаваньні ў гэтым Вярхоўным Савеце.**

**Неабходнасьць рэфэрэндуму, законна засьведчаная воляй 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі, не зьнятая з парадку дня. Дэпутаты Апазіцыі БНФ будуць дамагацца адмены антызаконнага рашэньня Вярхоўнага Савета ўсімі даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі. Рэфэрэндум павінен адбыцца.**

**Мы, дэпутаты апазіцыйнай меншасьці, усе, хто 29-га кастрычніка прагаласаваў за рэфэрэндум, за выкананьне Канстытуцыі і Закона, застаемся легітымнай часткай гэтага Вярхоўнага Савета, каб не дазволіць яго кіруючай большасьці бесперашкодна парушаць правы чалавека, зьневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народа, дыскрэдытаваць беларускую дзяржаву, каб дамагчыся датэрміновага спыненьня яго паўнамоцтваў на аснове Закона.**

**Мы верым у шчасьлівую будучыню Беларусі, вольнае і заможнае жыцьцё народа і, адстойваючы законныя інтарэсы і правы людзей, спадзяемся на іх разуменьне нашай пазіцыі, падтрымку і арганізаванасьць.**

**Дэпутаты Апазіцыі БНФ.**

---

● *РЭПЛІКА*

## А АДНАЎЛЯЦЬ ЧЛЕНСТВА НЕ СЬПЯШАЕ...

Колькі памятаю, знаёмы партыец Віктар Ж-ч заўжды выконваў «гэнеральную лінію партыі». Вучыў масы жыць па-ленінску, ня верыць у Бога, абураўся маёй адмоўнай пазіцыяй у адносінах да клясыкаў камунізму. У дні жнівеньскага пярэвароту паціраў рукі, чакаючы, калі прыйдзе загад «прамываць мазгі» няўрымслівым дэмакратам.

Потым разам са сваёй партыяй зьнік. Нядаўна я сустрэў яго зноў. З захапленьнем расказваў былы партактывіст аб адраджэньні камуністых на Беларусі. Крыўдаваў на тое, што ў партыі ўсе старыя кадры, таму аднавіць сваё членства пакуль не сьпяшае. У запале пачаў (у які ўжо раз!) пераконваць, што ідэя камунізму — гуманная рэч, якая зьявілася на падставе філязофіі Канта, Гэгэля, сьцьярджаў, што бальшавізм паўстаў як самастойная плынь з хрысьціянства і ўвабраў у сябе яго лепшыя традыцыі.

Сьмешна, ня болей, слухаць падобныя разважаньні сталага чалавека. Але насьцярожвае вось што: дзесяцігодзьдзі верныя ленінцы адмаўлялі існаваньне Бога і яго сына Ісуса, вядучы бязлітасную вайну супраць іх. Зараз, каб набраць палітычных ачкоў, пэкабоўцы гатовы прызнаць усё, толькі б стварыць сабе прывабны імідж. Але, відаць, неабходна нагадаць «новым» нявольнікам Божым, што вернікі-хрысьціяне ўсе астатнія вучэньні, асабліва якія зьявіліся нядаўна, лічаць сэктанскімі...

**Г. СТРУМЕНЬ.**

---

# «ВЭТЭРАН» У ПАШТОВАЙ СКРЫНЦЫ

Мне наогул усё адно, што людзям карціць святкаваць: юбілеі сям ´і Раманавых, дзень утварэньня Ізраіля або Дацкага каралеўства. Тое ж самае і з 7-м кастрычніка, днём брэжнеўскай канстытуцыі, ці 7-м лістапада. У адрыўным календары «Наш Край» на сёлета ёсьць лякanічны запіс: «7-га лістапада 1917 г. у Расеі адбыўся кастрычніцкі пярэварот». І ўсё. Сапраўды беларуская ацэнка падзеі. Бальшавікі ня бачылі ані Беларусі, ані беларусаў, ані беларускай мовы... Але адзначаць угодкі? Калі ласка. Нехта сьвяткуе дні нараджэньня Сталіна, Леніна, Пілсудзкага, Кагановіча, Патрыса Лумумбы. Калі ласка. Калі гэта ціха, спакойна, цывілізавана.

Здаецца, простыя грамадзяне ў нас у Горадні менавіта гэтак і адзначылі мінулыя ўгодкі пярэвароту. Звычка ёсьць звычка. Нагода пад бутэлечку — заўсёды справа прыемная. Піць без прычыны кепска. У навакольных крамах была недарагая вараная каўбаса трох гатункаў па 60—65 рублёў. Увечары аднекуль зь верхняга паверху гралі факстроты 30-х гадоў. Усё цывілізавана. Палякі, праўда, паказалі лічы абышто. Першую чарадоўку фільма «Машыніст ніяк ня можа зрушыць паравоз». Пад дакумэнтальныя кадры ўручэньня Брэжневу спачатку зорачкі, а потым срэбнай шаблі пракруцілі песьню ўжо забытай Пугачовай «Усё могуць каралі». Прымітыўна. Лёня, канешне, сьмешны: «А я думал, что украли». «Нашли, нашли, Леонид Ильич!» Цікава таксама і тое, як яго правадзілі ў вагон. Разьвітаўся, чакае ў дзьвярох, а цягнік усё ня едзе... Сказалі, што наступная чарадоўка будзе да 70-х угодкаў. Дай Бог, каб нішто не перашкодзіла.

Дарэчы будзе сказаць, мне напярэдадні гэтага сьвята падкінулі ў паштовую скрынку маскоўскую газэтку «Ветеран». Пад шыльдай здымак славэтнай Аўроры, на фоне якой зьняліся нейкія дзед з бабкай. У самым нізе газэты разгорнутая цытата зь Леніна пра тое, што «окончательная победа пролетариата неизбежна». А чаму менавіта пралетарыята? Чым ён лепш за іншых? А як жа мозг нацыі — інтэлігенцыя? «Ґаўно»,— як любіў казаць Уладзімір Ільліч?! Усе гэтыя цытаткі састарэлі, як якая алхімія або інквізіцыя...

Газэтка, трэба сказаць, даволі адыёзная. Друкуе матэрыялы накшталт «Еще о горбачёвщине» або «Хрен реформ царской редьки не слаще». Узяўся я пачытаць нататку «Отечество, которого нет?..»: «Наша великая Родина с древнейших времен была надежным гарантом сохранения планеты Земля (спрытна!? — Р. М.). В годы монгольского нашествия Россия, приняв на себя главный удар Золотой орды, не позволила оккупировать Запад. В годы завоеваний Наполеона, слывшего непобедимым, Россия остановила французские полчища и не дала покорить Восток...» Спачатку Захад не дала скарыць, потым Усход... Што ні фраза, то і недарэчнасьць. Выкарыстаньне сучаснай газэтнай лексікі для апісаньня падзей мінуўшчыны і г. д. Але самае непаразуменьне ў тым, што аўтар плача па СССР-ы, а піша пра Расею. Ды ні халеры ёй ня зробіцца: стаіць, як і стаяла.

Аднак пры чым тут мы? Мы толькі зараз набылі сваю Радзіму, мы толькі цяпер можам уздыхнуць вальней і ўжо амаль не адчуваць сябе дома чорнымі мурынамі! Усё гэта іхні расейскі, вялікадзяржаўніцкі падыход да справы, як шыла зь мяшка вылязае. Дэмагогія суцэльная. Зрэшты, не такія ўжо яны закарэлыя, розьніцу ведаюць. Амаль уся газэта пра тое, што ў Расеі кепска і толькі ў гутарцы з вэтэранскім старшынём зь Беларусі высьвятляецца, што ў нас пэнсіянерам жывецца значна лепей. Дык, значыцца, не СССР трэба аднаўляць, а ўключыць Расею ў межы Беларусі. Жарт, вядома.

Сітуацыя бязглуздая. Нашыя пэнсіянеры змагаюцца за тое, каб далучыцца да Расеі і жыць яшчэ горш. А яны ў сваю чаргу робяць, як у той показцы, гэрой якой жадае заможнаму суседу ўласнай галечы. Зайздрасьць, памножаная на нац. характар? Ці звычайная люмпэнская псіхалёгія? Чужая душа — пацёмкі... Сьвята скончылася, напярэдадні наступнае — дзень сталінскай канстытуцыі.

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

---

● *Мітынгі*

# СПАГНАЛІ ЗЛОСЬЦЬ, АДВЯЛІ ДУШУ...

Завітаў я 7-га лістапада на гарадзенскі рэвалюцыйны мітынг. Адны ганілі БНФ, іншыя песьцілі прысутных успамінамі аб заваёвах кастрычніка. Радаваліся таму, як раскулачвалі сялян, засноўвалі калгасы. Зноў ганілі «перевёртышей» Ельцына, Шушкевіча і Краўчука, якія зьнішчылі іхні адзіны і недзялімы... Паслухаўшы аратараў хвілін дваццаць, народ паціху пачаў разыходзіцца.

Мне ўдалося таксама паслухаць размову двух ужо немаладых мужчын. Першы казаў сябру: «Бачыш, крычаць, відаць, шкада ім страчанай улады». Другі зазначыў : «Бо ёсьць аб чым крычаць, колькі прывілеяў згублена, спэцпайкоў, спэцпаліклінік, спэцсанаторыяў»... Накрычаўшыся ўволю, вэтэраны паспакайнелі. Але тут да мікрафону дапаў наступны, яшчэ больш «дзівак» — вэтэран. Ён апантана заклікаў цераз галасаваньне вынесьці прысуд БНФ.

Відаць, вэтэраны дагэтуль думаюць, што іхняя арганізацыя не грамадзкая, а кіруючая і нават судовая. Зь цяжкасьцю вядучы ўтайманаў разхваляваных пэнсіянэраў, якія гатовы былі ўжо кінуцца ў бой. А ўвогуле мой знаёмы, які назіраў за ўсім, зазначыў: старым захацелася гульні, і яны іх стварылі.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

Здымак з фотаархіва.



# «ЗАГАД № 1 — ПАЗБАВІЦЬ ВОЛІ...»

**СРОДКІ** масавай інфармацыі рэспублікі, дый не толькі, з зайздросным пастаянствам вяртаюцца да падзей больш чым 50-цігадовай даўніны. Асаблівую ўвагу прыцягваюць дасьледаваньні і сьведчаньні аб дэпатрацыі насельніцтва. Рэгіён Заходняй Беларусі, і Гродзеншчына ў прыватнасьці, не стаў выключэньнем у ланцугу злачынстваў сталінскіх апрычнікаў. Аб гэтым гавораць факты.

Так, летась часопіс «Политический собеседник» асьцярожна прывёў лічбу: з вызваленых земляў заходняй часткі Беларусі было «адселена» 25 тысяч асаднікаў, іншых прадстаўнікоў адміністрацыі даваеннай буржуазнай Польшчы. Вось некалькі штрышкоў. Не адкаснулася дэпартацыя, напрыклад, і Ваўкавышчыны. Тут зьдзейсьнілі сапраўдную апэрацыю па высяленьні тых жа асаднікаў. Пра гэта адкрыта заявілі кіраўнікі раёна 15 красавіка 1940 года, калі праводзілася першая партыйная канфэрэнцыя.

Адзначалася, што вялікую работу ў патрэбным накірунку правялі партарганізацыі. Улік асоб, што падлягалі выдаленьню, праводзіўся з захаваньнем поўнай канспірацыі. І як вынік — адсутнасьць эксцэсаў, уцёкаў. Сяляне-актывісты таксама бралі чынны ўдзел у апэрацыі, прадуманай па-вайсковаму дакладна і ўсебакова. Аднак пасьля высяленьня асаднікаў і лесьнікоў колькасьцю да 250 гаспадарак, іншыя сем 'і, гавораць архіўныя дакумэнты, здолелі ўхіліцца ад ўліку.

Між іншым, узгадваецца, што дрэнна захоўвалася маёмасьць ужо ад 'ехаўшых рэпрэсаваных «паліцыянтаў, белагвардзейцаў, афіцэраў, правакатараў». І вынік праведзенай работы — такім чынам зьліквідаваны кантррэвалюцыйныя, паўстанцкія і дывэрсійныя гнёзды. Маўляў, у Ваўкавыску былі шырока разгорнуты сеткі паліцэйскай агэнтуры і ваенна-фашыстоўскіх арганізацыяў накшталт «Саюза рэзэрвістаў», «Саюза асаднікаў», «Стральца», «Млодай весі», філіі «Міжсаюзнага камітэта па барацьбе з камунізмам». Апошні быў найбольш шкодны, бо нібыта праводзіў вялікую контррэвалюцыйную дзейнасьць і меў свае нізавыя зьвеньні ў шэрагу населеных пунктаў...

Пошук «ворагаў народа» неўзабаве разгарнуўся на ўсю моц. Мэтады і прыёмы пасьпяхова перакладаліся на заходне-беларускую глебу з матухны-Расеі. Выкрыцьцё «непажаданых элемэнтаў» прымала масавы характар. У тым жа Ваўкавыску ў час правядзеньня агульнага ўезднага партыйнага схода яшчэ 3 студзеня 1940 года нехта Ліхачоў зазначыў: многа гаворым пра пільнасьць, а ва ўездным выканкаме сядзіць Матысік — член белапольскага руху ППС. Тагачасны пракурор раёна Ціт Фёдаравіч Жаркевіч дадаў: многа ў школах працуе жонак афіцэраў і асаднікаў. Ёсьць матэрыялы, дзе сяляне чатырох вёсак падпісаліся пад лістом за вызваленьне памешчыка.

Кропку ў гэтай гутарцы ставіць начальнік уезднага аддзела НКУС Грыднёў. Па-армейску проста ён давёў да прысутных: «Панамарэнка даваў інструкцыю кожнаму з нас. Задача нумар адзін — пазбавіць волі паноў і паліцэйскіх, і мы гэта зрабілі».

«Паляваньне за ведзьмамі» вялося па ўсяму фронту, і не толькі супраць жыхарства польскай нацыянальнасьці. Архівы захавалі і такое сьведчаньне. У Ваўкавыску ў маі 1940 года быў выключаны з партыі Рыгор Міканоравіч Шацкіх, рускі, вахцёр пры аддзеле НКУС. Нібыта многа піў гарэлкі, пасварыўся ў прысутнасьці пабочных з калегам па рабоце Часоўскіх, прычым з прымяненьнем штатнай зброі. Меў сувязь з варожымі элементамі, высланымі за межы Беларусі. Шацкіх садзейнічаў ім, папярэджваў аб датах высылкі, дапамагаў хавацца. Тыя, хто ўцёк, былі злоўлены. І сёньня Шацкіх, маўляў, атрымлівае пісьмы ад сям 'і высланага паліцэйскага.

Шкада, што мы не ведаем пра далейшы лёс Рыгора Шацкіх. Але яго будучыня, бачна па ўсім, была незайздроснай. Як і доля дачкі дэпартаванага паліцэйскага, якая вяла перапіску з чалавекам, які запаў ёй у сэрца.

**ГРОДЗЕНСКІ** навуковец І. І. Коўкель у сваім дасьледваньні «Аб дэпартацыі насельніцтва з Заходняй Беларусі», у 1939—1941 гадах лічыць, што ўсяго з тэрыторый Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Літвы дэпартавана ўглыб СССР 1.114.000 чалавек грамадзянскага насельніцтва, а таксама 336.000 уцекачоў з тэрыторый, ужо на той час захопленых фашыстамі. Да ліку дэпартаваных вучоны адносіць і 230.000 польскіх жаўнераў і афіцэраў, узятых у палон.

Апошняя лічба, на маю думку, найбольш спрэчная. Напрыклад, газэта «Известия» ад 29 верасьня 1991 года сьведчыць: польскіх ваеннаслужачых, якія сталі палоньнікамі Чырвонай Арміі ў 1939 годзе, было 130.242 чалавекі.

Аднак, падаецца, колькасьць гэта зьменшана. І каб пераканацца, неабходна пагартаць пэрыядычны друк за верасень таго ж года, дзе штодня прыводзіліся параможныя рэляцыі Гэнштаба Чырвонай Арміі. Толькі з 17 па 21 верасьня было ўзята ў палон 120.000 вайскоўцаў польскіх Узброеных Сіл. Але зьвесткі друкаваліся амаль да кастрычніка, таму, няцяжка наблізіцца да лічбы — 234.500 чалавек. Прычым, гэта без уліку кавалерыстаў пяці палкоў, захопленых у канцы верасьня. Аналіз зроблены мною паводле перадрукаў газэты «Чырвоная зьмена».

Так што гарадзенскі гісторык І. І. Коўкель мае больш рацыі, чым маскоўскія журналісты. Перадусім, ён удакладняе, што сярод 1.114.000 дэпартаваных было — 703 тысячы палякаў, 217 тысяч украінцаў, 83 тысячы яўрэяў, 56 тысяч беларусаў, 35 тысяч «палешукоў», 20 тысяч рускіх і летувісаў. У Сібір таксама былі адпраўлены 198 тысяч яўрэяў і 138 тысяч палякаў, якія шукалі паратунку на савецкай тэрыторыі з пачаткам гітлераўскай агрэсіі супраць Польшчы.

Вядомая расійская даследчыца В. С. Парсаданава мяркуе, што па палітычных матывах рэпрэсавана без суда і сьледства, нават без абвінавачваньня каля 10 працэнтаў насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. З дакумэнтаў, выдадзеных у Вашынгтоне, вынікае наступнае: з Беласточчыны, Горадні, Ліды і Вільні дэпартавана 300 тысяч чалавек, з Навагрудка і Палесься — 200 тысяч, Валыні — 150 тысяч. Сюды ж замежныя гісторыкі ўключаюць і 210 тысяч мужчын, прызваных у рады Чырвонай Арміі.

Падлічыць колькасьць насельніцтва, сілком адарванага ад родных котлішчаў за межы Гарадзеншчыны ў яе цяперашніх контурах, справа нялёгкая, і чакае свайго сумленнага дасьледчыка. Будзем спадзявацца, што з часам выслоўе «Нішто не забыта, ніхто не забыты» пераўтворыцца замест зашмальцаванага ідэялягічнага штампа ў рэалізаваную на практыцы сапраўднасьць.

**В. ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат вабласнога Савета.**

# *Але яна ўжо мае сваю касьмічную навуку*

**У Горадні зьявіўся яшчэ адзін акадэмік. І стаў ім доктар медыцынскіх навук, вядомы на Беларусі і далёка за яе межамі навуковец Анатоль Іванавіч Яроцкі. Рэдакцыя «Пагоні» віншуе Анатоля Іванавіча з наданьнем яму званьня акадэміка акадэміі імя К. Э. Цыялкоўскага, жадае яму посьпехаў і яшчэ доўгай плённай працы. А чытачы нашай газэты маюць магчымасьць першымі прачытаць інтэрвью з Анатолем Іванавічам, які адказвае на пытаньні Сяргея Лаўніка ўжо ў якасьці акадэміка.**

## *Беларусь ня мае сваіх касьмічных караблёў*

**— Анатоль Іванавіч, абраньне акадэмікам было для Вас навіною ці Вы ўжо чакалі такога ходу падзей?**

— На розных паседжаньнях у Маскве, у прыватнасьці на чытаньнях Цыялкоўскага, усім іх удзельнікам было вядома, што ў гэтым годзе пройдуць выбары новых акадэмікаў. Каго абяруць — гэта павінны былі вызначыць галасаваньні, якія адбыліся 27 кастрычніка пад час паседжаньня прэзідыума акадэміі. І вось віцэ-прэзідэнт гэтай высокай навуковай установы акадэмік Касмалінскі даслаў мне тэлеграму аб аднагалосным абраньні мяне акадэмікам.

**— Акадэмія імя Цыялкоўскага — гэта навуковы цэнтр разьвіцьця касманаўтыкі былога Савецкага Саюза, а зараз СНД. Скажыце, калі ласка, зь якімі накірункамі дзейнасьці зьвязана Вашая праца, над якімі праблемамі Вы працуеце?**

— Ідзе інтэнсіўная распрацоўка праграмаў, будуюцца караблі, якія павінны будуць ляцець на Марс. Над гэтым самастойна працуюць навукоўцы ЗША і спэцыялісты СНД. Ляцець прыйдзецца прыкладна 3,5 года. У часе палёту касманаўты будуць трапляць у праменістыя вобласьці іншых галактык. Як павядзе сябе чалавек у тых умовах, ніхто зараз ня ведае, нягледзячы на вялікую інфармацыю, якою мы валодаем. Таму на прадстаўнікоў біялагічнай і медыцынскай навук ускладзены абавязак распрацаваць праграмы па процістаяньню чалавекам ўкачваньню (такую назву мае хвароба руху, якая ў касманаўтаў, нягледзячы на іх высокую падрыхтаванасьць, усё роўна мае месца). Створана група навукоўцаў, куды ўваходжу і я, праца якой накіравана на стварэньне сістэм супраціўленьня шкодным і незвычайным фактарам касьмічнага палёту. Я, у прыватнасьці, у мінулым годзе на чытаньнях Цыялкоўскага рабіў вялікую прамову на тэму, якая тычылася кампанэнтаў, ствараючых такую біялагічную сістэму. Я выпрацаваў 35 правілаў, якія касманаўт павінен выконваць штодзень. І гэтыя мае правілы ўжо сёньня далі яшчэ 364 новых правілы, якія проста неабходны касманаўтам для таго, каб абсалютна фэнаменальны палёт на Марс прайшоў пасьпяхова.

**— А якія асноўныя накірункі працы фізіёлагаў, што працуюць з так бы мовіць будучымі «марсіянамі»?**

— Самым эфектыўным сродкам падрыхтоўкі ёсьць гарманічная, дэтальна арганізаваная фізічная падрыхтоўка, фізічная дасканаласьць. А гэта ў першую чаргу мае на ўвазе актыўнасьць усіх груп мышцаў, таму што калі ў стане невясомасьці раптоўна выпадае актыўнасьць розных функцыянальных сістэмаў, то чалавек слабне, памяншаецца разумовая і фізічная працаздольнасьць. Зараз мы распрацавалі шэраг комплексаў так званага оптымума мышачных нагрузак. Для таго, каб стварыць такі оптымум, трэба разьлічыць асабіста для кожнага чалавека рытм мышачных высілкаў, інтэнсыўнасьць мышачнай дзейнасьці, яе характар. Для дасягненьня станоўчага выніку неабходна адзінства адаптацыі руху, цеплавой адаптацыі і праменнай. Як гэта зрабіць канкрэтна? Напрыклад, гуляць у вялікі тэніс, праводзіць трэніроўкі не ў цяньку раніцою ці ўвечары, а пад прамымі праменьнямі сонца, у самы сьпякотны час. Гэта маленькі прыклад. Але калі чалавек будзе сябе рыхтаваць да такіх незвычайных умоў жыцьця, то паступова выпрацуецца вельмі высокая астоістасьць арганізму да тых 65 інградыентаў, якія вылучылі нашыя дасьледчыкі. Асабіста я, як спэцыяліст у галіне касьмічнай фізіялёгіі, распрацоўваю канкрэтныя прапановы, якія тычацца працэсу рухавой адаптацыі. Гэта вельмі значная частка рэжыму касманаўта. Калі ён ляціць у касьмічным караблі працяглы час, то на яго стан пачынае ўплываць невясомасьць.

Слабне сардэчна-сасудзістая дзейнасьць, падае моц нервовых працэсаў, чалавек робіцца менш ураўнаважаным. І каб касманаўт мог жыць і працаваць у такіх умовах, ён праз кожную гадзіну сваёй прафэсійнай працы павінен выконваць пэўную праграму мышачнай дзейнасьці.

**— Калі не сакрэт, то якія канкрэтна практыкаваньні выконваюць касманаўты пры падрыхтоўцы да палёту на зямлі і ў час палёту ў космасе?**

— На караблі адбываецца незвычайнае ўздзеяньне сіл паскарэньня. Касьмічны карабель авяртаецца. Больш таго, касманаўт, калі глядзіць на прыборы, робіць рухі галавою, і тут пачынае дзейнічаць новы від паскарэньня — паскарэньне Карыоліса. Таму, каб пазбавіцца непрыемных наступстваў ад узьдзеяньня гэтага паскарэньня, мы ў наземных умовах пачынаем рыхтаваць касманаўнаў, каб яны маглі супрацьстаяць шкодным уплывам. Калі казаць навукова, мы выпрацоўваем статакінетычную астоістасьць. Якія практыкаваньні? Напрыклад, калі рабіць нахілы галавой узад-уперад, управа-улева, рухі па ходу гадзіньнікавай стрэлкі і супраць гэтага ходу, спачатку ў павольным тэмпе, а потым, як ўзьнікне трэніраванасьць, у максімальным, гэта ўжо дасьць свой вялікі вынік. Дастаткова трэніровак на працягу трох дзён, каб чалавек мог ужо пераносіць такую нагрузку як 10—15-цігадзінны пералёт у самалёце без аніякіх шкодных наступстваў.

Хачу сказаць яшчэ вось аб чым. Чалавек у сучасных умовах знаходзіцца ў стане так званай гіпакінэзіі і гіпадзінаміі, у выніку чаго арганізм вельмі моцна аслабляецца. Мы прызвычаіліся да жыцьця толькі галавою ўверх. А становішча галавою ўніз (яно нярэдка ўзьнікае ў касманаўнаў пад час касьмічнага палёту) пераносіцца вельмі цяжка, твар наліваецца крывёю, узьнікае цяжар, а ў людзей сталага ўзросту могуць лопнуць сасуды. Каб гэтага не адбывалася, прырода стварыла асобны орган, які закладзены ў аорце і каратыдным сінусе сэрца. Гэты орган успрымае ўзьдзеяньне кампрэсіі крыві, калі чалавек знаходзіцца ў становішчы галавою ўніз, кроў ад ног адлівае да галавы і пры нармальнай дзейнасьці гэтага прэсадэпрэсорнага аналізатара адбываецца сасудзістая рэакцыя, уціскаьне сасудаў галаўнога мозгу, кроў выціскаецца з мозга, і чалавек адчувае палёгку. Таму для трэніроўкі гэтага паміраючага ў звычайных умовах аналізатара мы даем фізічныя практыкаваньні ў выглядзе перавёрнутага трэнінга ў парах. Вядома, ёсьць яшчэ мноства розных падрыхтоўчых сістэм, якія дапамагаюць рыхтаваць касманаўтаў да палётаў у космасе.

**— Да нядаўняга часу існавалі дзьве вялікія касьмічныя дзяржавы — СССР і ЗША. Ці ёсьць зараз сувязі з амэрыканскімі навукоўцамі і на якім ўзроўні знаходзяцца зараз гэтыя адносіны?**

— Сувязі, безумоўна, ёсьць. Традыцыйныя чытаньні Цыялкоўскага, прысьвечаныя навуковай спадчыне гэтага генія касьмічнай навукі, зьбіраюць навукоўцы ўсяго сьвету і пад час чытаньняў можна сустрэць спэцыялістаў з ЗША, Англіі, Францыі, Нямеччыны, Фінляндыі.

Так што навуковыя кантакты падтрымліваюцца. Што тычыцца разьвіцьця самой касманаўтыкі, то той пэрыяд, які быў пазначаны пагрозамі зорных войнаў, прымусіў кіраўніцтвы тады яшчэ Савецкага Саюзу пакласьці шмат намаганьняў і сродкаў на тое, каб стварыць моцную сістэму супрацьстаяньня зорным войнам. Гэта дало небывалы штуршок разьвіцьцю нашай касманаўтыкі, узьняло яе на вялікую вышыню. Сумесныя палёты «Апалона» прадэманстравалі перавагі і недахопы і нашай, тады савецкай, і амэрыканскай касманаўтыкі. Калі казаць з пункту гледжаньня спэцыяліста, то ў Злучаных Штатах на вышэйшым узроўні знаходзіцца тэорыя і практыка тэрмадынамікі, таму праблемы, зьвязаныя з тэмпературамі, яны распрацавалі вельмі добра. Усе ведаюць, што амэрыканцы пабылі на Луне ўжо шэсьць разоў. А калі казаць аб падрыхтоўцы чалавечага арганізму да дальніх палётаў, то нашая тэорыя і практыка не пакідаюць аніякіх сумненьняў наконт сваёй найвялікшай эфектыўнасьці.

**— Спэцыфічныя асаблівасьці падрыхтоўкі нашых касманаўтаў, касьмічных караблёў зьяўляюцца, вядома, вельмі каштоўнымі, нясуць у сабе пэўную долю сакрэтнасьці.**

— Я павінен сказаць, што ідзе вельмі шырокая падрыхтоўка, з удзелам вялікай колькасьці супрацоўнікаў не толькі непасрэдна ў цэнтры падрыхтоўкі, але і за яго межамі. Безумоўна, ёсьць пэўная стрыманасьць. Яна выклікана чыста навуковымі асаблівасьцямі і патрабаваньнямі самой сытуацыі дасьледчага працэсу. Але пад час сустрэч па буйным праблемам агульнага інтарэсу, напрыклад, па праблемам эфірных станцый (а Цыялкоўскі гаварыў аб цэлых эфірных гарадах), мы працуем разам, супольна.

**— Анатоль Іванавіч, ці можна гаварыць аб беларускай навуцы касманаўтыцы, аб беларускіх навукоўцах, якія працавалі ў гэтай галіне?**

— Безумоўна. Былы віцэ-прэзідэнт АН нашай рэспублікі, яшчэ будучы акадэмікам-сакратаром акадэміі, Дзьмітрыеў (ён сам беларус, вялікі беларускі навуковец) удзельнічаў у паседжаньнях Усесаюзнага фізіялагічнага зьезда і асабіста кіраваў сэкцыяй, у якой разглядалася вялікая колькасьць дакладаў па касьмічным праблемам. Акадэмік Дзьмітрыеў у сябе ў акадэміі і ў інстытуце фізіялогіі меў абсалютна фэнаменальныя, вельмі рэдкія ўстаноўкі, праводзіў дасьледваньні функцыяў вестыбулярнага аналізатара. Аднойчы ён завёў мяне ў сваю лабараторыю і паказаў цэнтрыфугу, у якой дзесяць гадоў без перапынку круціліся розныя жывёлы: марскія сьвінкі, пацукі. Уявіце сабе, якая вялізная і значная інфармацыя для сёньняшняй касманаўтыкі!

Нашыя гарадзенскія навукоўцы ствараюць новыя мадэлі лазэраў, якія таксама будуць карыснымі на касьміных караблях. Ну і сябе я таксама лічу прадстаўніком беларускай касьмічнай навукі.

### АРХІЎ

# 1919: ПРЫЙШЛІ ПАЛЯКІ

**(Заканчэньне.
Пачатак у № 11.).**

*МЫ у найбруднейшай Ваўкавыскай турме.*

*Колькі тут людзей! Найбольш — беларусаў з Гарадзеншчыны.*

*Цесныя брудныя катухі, па 12 кв. аршын, а ў іх па 20—30 і больш душ.*

*Мы былі ўражаныя тым, што ў вязьніцы апынулася пераважна беларуская народная інтэлігенцыя: настаўнікі, былыя афіцэры, псаломшчыкі, сьвядомыя сяляне, якія ўзначальвалі розныя народныя арганізацыі. У турме прадстаўнікі амаль кожнай воласьці Гарадзеншчыны, прычым ад некаторых па 3—5 асоб. Вось ляжыць на брудных нарах хворы, зьнямоглы Капітан Хомчык; ён езьдзіў з Горадні ў Беластоцкі Ўезд для запісу ахвочых ў беларускае войска, і быў арыштаваны палякамі; побач зьбіты за ўцёкі з турмы — афіцэр Бекеш; у куце, прыхінуўшыся да дзьвярэй, стаіць сябра Старшыні Ваўкавыскага Уезднага камітэта — Ляхаўскі, які ці мала сіл паклаў, каб здабыць насельніцтву ўезда хлеба; у другім куце купка сялян і сам Старшыня гэтага камітэта — рухавы Данілюк.*

*Прывялі новых. Пачалі знаёміцца, распытваць, «дзе» і «за што» арыштаваныя. Адказы тыя самыя: арыштаваныя ў роднай Гарадзеншчыне за працу выратаваньня ўцекачоў-беларусаў ад галоднай сьмерці,— за арганізацыю народу.*

*Папаўзьлі пагрозьлівыя чуткі, што палякі без суда і сьледства расстрэльваюць камітэты. Але спакваля прывыкаеш і да гэтых чутак. Галоўнае — голадна, брудна, вашыва.*

*На турэмны панадворак выпускаюць толькі на «некалькі хвілін і тое, пераважна тых, хто навучыўся двум словам папольску».*

*«Пане Падхарунжовы! Можэ пан бэндзе ласкавы выпусьціць мне?»*

*«Нацыянальная» польская лаянка вылятае з глоткі «начальства» і ўсё ж, часам, просьбіта пускаюць.*

*Але самае цікавае было наперадзе. Аднойчы па казарме прайшла чутка, што ў турму завітае вышэйшае начальства. У многіх зарадзілася надзея, што начальства разьбярэцца і ўсіх пачнуць выпускаць, бо ж сядзяць невінаватыя людзі.*

*Адчыняюцца дзьверы камэры, людзей выганяюць з усімі рэчамі на двор і ставяць у два шэрагі. Два доўгія шэрагі польскіх легіянэраў сталі насупраць. Тут жа стаяць і ляскацяць бізунаміі-нагайкамі два польскія афіцэры ў вялікіх чынах.*

*Але вось афіцэры падыходзяць да «арыштантаў» і загадваюць «зжуцаць» шынялі, паліто, футры, гімнасьцёркі, нагавіцы, боты, чаравікі, магеркі... Насупраць «паны легіянэры» скідаюць зь сябе падраныя «мундзіры», «сподне», атопкі і нацягваюць адзеньне і вопратку «арыштантаў».*

*Мы было запратэставалі. Не хацелася дабраахвотна аддаваць адзеньне, але легіянэры груба, сілай сарвалі і адзеньне, і абутак.*

*У вабмен атрымалі мы такія строі, якім не пазайздросьцілі бы сапраўдныя басякі.*

*Што тут будзеш рабіць? — Відаць ваяўнічай Польшчы на раду напісана апранацца і абувацца ў ва ўсё чужое. Пасьля гэтых пераадзяваньняў ўсе сталі падобныя на сапраўдных арыштантаў, з поўным наборам вошай і іншых кусачых, і ціха, апусьціўшы галовы, разышліся па камерах.*

*Але гасьцяваць ва «ўтульнай» Ваўкавыскай турме давялося нядоўга: стала вядома, што большую частку арыштаваных, недапытаных у Ваўкавыску, пераправяюць у Беластоцкую турму, дзе і «дадуць рады» бальшавікам.*

*Настаў і гэты дзень. Доўгая чарада абарванцаў у польскіх шматах рушыла па вуліцах Ваўкавыска на вакзал, адкуль у наглуха зачыненых арыштанцкіх вагонах усіх перавезьлі ў Беластоцкую цэнтральную турму, дзе мы «грэліся» толькі двое сутак. Потым нас пагрузілі ў вагоны і адправілі ў лягер ваеннапалонных Домбэ-Кракаў.*

*Тое-сёе з падарожжа ў Кракаў.*

*Была Вялікая Субота. Пасьля абедзенай пахлёбкі нам загадалі стаць на турэмным двары.*

*Пераклічка цягнулася да ночы.*

*Халадно.*

*Арыштанты калоцяцца і нецярпліва чакаюць, калі іх, галодных і разьдзетых, загоняць, нарэшце, у вагоны.*

*Пагрузіліся, і цягнік рушыў у Варшаву. Прыехалі ў першы дзень Вялікадня пасьля абеду.*

*«Чыстая» публіка шпацыруе па Венскім вакзале і дзівіцца на «бальшавікоў», сьсінелых ад холаду і голаду.*

*«Дзе вы ваявалі, на якім фронце?» — пытаюцца ў нас і зьдзіўлена адыходзяць, калі ім кажуць, што ўсіх узялі ў Гарадзенскай губэрні — дома.*

*Чакаем, што дадуць пад 'есьці, бо ж сёньня Вялікае Хрысьціянскае Сьвята. Пытаемся ў канваіраў, калі будуць карміць. Тыя адказваюць:*

*«Заўтра. У Чэнстахове».*

*А ў вагонах халадно. На дварэ падае сьнег у перамешку з дажджом і градам. «Арыштанты» ляскацяць зубамі і хмурна маўчаць...*

*Нейкая добрая бабулька, відаць, з простых, пашкадавалася галодных людзей і прынесла да цягніка (на вакзале стаялі некалькі гадзін) невялікі горшчык бульбянага супу, які і пачала дзяліць па лыжцы. Дай ёй, Божа, здароўя. Гэтая лыжка супу не забудзецца пакутнікамі.*

*Цягнік пайшоў далей.*

*Ноч халодная. Многія застудзіліся, і ўжо ў Кракаў даехалі хворыя на тыфус (больш як 20 чалавек).*

*Наступны дзень — такі самы халодны, як і ноч. «Арыштанты» цярпліва чакаюць, калі ж іх пакормяць.*

*Вось і Чэнстахоў. Неба праясьнілася, але вельмі халадно. Публіка прагульваецца каля тупіка, куды загналі наш цягнік. Немалады ўжо паляк падышоў з хлопчыкам падзівіцца на «бальшавікоў».*

*«О, патш, дзецко» — то большэвікі. Патш, які оне обэрваны».*

*Дзіця круглымі вачанятамі аглядае зьнясіленых «бальшавікоў», і на тварыку ягоным сполах.*

*Але вось і абед, рэдкая вараная капуста бяз хлеба.*

*Голадна і холадна. Зноў па вагонах. Вязуць далей.*

*Наступны дзень — у Домбе, недалёка Кракава. Апошні пункт нашага падарожжа.*

*Пасьля колькіх гадзін чаканьня ў халодных вагонах, нас, нарэшце, разгрузілі і накіравалі, сьпярша для пераклічкі на двор канцэлярыі, а потым — у халодную лазьню, дзе адабралі рэшту рэчаў, што заставаліся ад першай экспрапрыяцыі: нагавіцы, паясы, гаманцы і іншае.*

*А вось і драўляны, зь дзірамі, барак, дзе мы будзем жыць, і вельмі доўга.*

*Мы ўзрадаваліся і гэтаму бараку, усё ж-такі ўрэшце «дома». З асалодай разьлегліся на голых нарах гарадзенскія «бальшавікі», якіх у лягеры было каля 1000 чалавек. Моцна паснулі, тулячыся адзін да аднаго, каб цяплей, змучаныя людзі. Многія, відаць, сьнілі Бацькаўшчыну, родныя хаты, а можа і чулі ў завываньні халоднага галіцыйскага ветру шум родных лясоў.*

*Паўзьлі аднастайныя нудныя дні, якія парушала толькі чыста польская лаянка пільных вартавых. Адная ўцеха была — халодная лазьня.*

*Падымаліся а 6-й раніцы (не прачнешся сам па крыку дзяжурнага,— разбудзяць шампаламі і бізуном), вытрушвалі штодня «канцы» (коўдраў), якія выдалі на тыдзень пазьней, пілі ваду, званую «кавай», убогі абед (звычайна сушаная гародніна невядомага паходжаньня), а бывала і вячэра (пахлёбка). Гнюснае, галоднае існаваньне. Да ўсяго страшная кара бізуном па голым целе за малейшую віну.*

*Запомнілася «знаёмства» з камэндантам «абоза енцаў» (лягера ваеннапалонных).*

*Праз колькі дзён па прыезьдзе ў лягер, пры выдачы «легітамацыяў» (асабовых картак) з допыту высьветлілася, што сярод «енцаў» ёсьць былыя афіцэры расейскай арміі. Камэндант, даведаўшыся, падышоў да нашага барака, «бальшавіцкага», выклікаў усіх афіцэраў да дрота, сам стаў з другога боку і зьвярнуўся да нас з прамовай:*

*«Вы афіцэры?»*

*— Так.*

*«Паментайце! Ежэлі бэндзеце агітоваць, то бэндзем стшэляць, як псув».*

*Мы ад нечаканасьці аж раты разявілі. Хацелі запярэчыць, што мы не бальшавікі, што гэта толькі Польскаму Ураду трэба было так нас ахрысьціць, але капітан-камэндант зьнік, а мы засталіся зь мянушкаю «бальшавікі» і былі нечым страшным у цэлым лягеры: нават украінскія палонныя пятлюраўцы цураліся нас, аж пакуль не давелаліся, «хто» мы і «што».*

*Заўсёды ўзмоцненая варта, грубыя вокрыкі, як толькі падыдзеш да дрота (за барачны дрот нас не выпускалі, і толькі праз месяц дазволілі гуляць за дротам па агульным двары, прыпісаўшы некаторых да інтэлігенцыі, а два «простыя» баракі так і заставаліся ўвесь час замкнутыя).*

*«Двадзесьце пенць горонцых» за малейшую неасьцярожнасьць, голад, холад, шпіёны зь ліку карэнных палякаў,— усё гэта так вымотвала нэрвы, што вязьні сталі як прывіды, як цені. Ці ня кожны маліў сабе хваробы ці сьмерці як вызваленьня.*

*Ніякія зарукі, дасыланыя таварыствамі, ня мелі сілы, ніякай літасьці. Сьмялейшыя ўцякаюць у суседнюю Чэхію і Венгрыю, але такіх шчасьлівых няшмат.*

*Тым, хто апісвае ўсё гэта, удалося вырвацца толькі таму, што прысталі да эшалёну, які ехаў у Дабраахвотную армію гэнерала Юдзеніча.*

*Успамінаюцца добрыя словы землякоў-гарадзенцаў:*

*«Добрай дарогі! Не забывайцеся нас і Роднай Гарадзеншчыны!»*

**Б. старшыня Скідзельскай валасной управы Падпаручнік Казячы, Падпаручнік Мышко.**

**14 жніўня 1919 г.**

**г. Коўна.**





**Вуліца Давыда Гарадзенскага у Горадні.**
**Фота Б. МЕШЧАРАКОВА.**

### ● *Статыстыка*

## *ЭМІГРАНЦКІ ДРУК. 40 ГОД ТАМУ*

У 1952 годзе на чужыне існавала 36 беларускіх выданьняў рознай пэрыядычнасьці. У Англіі і Аўстраліі выходзіла па 3 выданьні, у Бэльгіі і Італіі — па адным, у Канадзе — 7, у Нямеччыне — 8, у Францыі — 2, а ў ЗША найбольш — 11 газэт і часопісаў. Па тэматыцы яны падзяліліся наступна. Рэлігійна-грамадзкіх, літаратурна-навуковых і маладзёжных выданьняў выходзіла кожных па 4. Існавала таксама 2 гумарыстычных. Большасьць эміграНцкіх выданьняў — 22 мела агульнаграмадзкую накіраванасьць.

Самымі моцнымі, з рэгулярнай пэрыядычнасьцю былі газэты «Бацькаўшчына» (г. Мюнхэн) і «Беларус» (г. Новы Ерк), а таксама часопісы «Божым шляхам» (Францыя) і «Зьніч» (Італія), які друкаваўся беларускай лацінкай. Цікава пры гэтым зацеміць, што ў тыя часы беларускае жыцьцё на эміграцыі было вельмі актыўным і featнабаковым. Досыць сказаць, што тады існавала нават «аб 'яднаньне беларускіх лекараў на чужыне», якое выдавала часопіс «Мэдычная думка».

**С. А.**

